# „МАЛАНКА"

ЧАСОПІСЬ
ГУМАРУ,
ЖАРТАЎ
І САТЫРЫ.

1928.



Рэдакцыя „МАЛАНКА" Вільня, Гэтманская вул. № 2.

Друк. Крайнэс і Кавальскі Вільня, Вялікая 39.

ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.



# МАЛАНКА

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

20. I. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 1

## Ціха, дзеткі, ціха!..

Паўлюкевіч і Умястоўскі, ня гледзячы на сваё палёнафільства, пачалі ўзаемна лаяцца ў сваіх газэтах.

*(З газэт).*




**Матка-полька** *(да сваіх гадунцоў)*: Ціха, вы смаркачы, бо вось плескача дам! — Аднэй маткі малачко сьсеце, дык павінны жыць згодна і пакорна...







## Вось гэтыя мандаты спакою не даюць!..

Эх, чаму я не „пястовец“,
Не „радыкал“, ні „пэпэсовец“,
Ні „санатар“, ні „эндэк“,
Ні „сельсаюзьнік“, ні „хадэк“!..
Навет я ня маю głosu...
(Не зайздрошчу свайму лёсу!).
Вось каб быў-бы я паслом,
Пайшло-б ліха хадыром!..
Зараз быт свой перайначыў:
Купіў-б хату, зямлю, дачу, —
Быў-б сабе вяльможны пан,
Дачцэ купіў-бы — фартэп'ян,
Жонцы футраў і спадніцаў,
Махнуў-б летам за граніцу.
І на пляжы там, ля мора
Я забыўся-б пра выборы,
Бо меў-б мандат на гадоў пяць, —
Мне на выборцаў напляваць!..
Дык чаму я не „пястовец“,
Не „радыкал“, ні „пэпэсовец“,
Ні „санатар“, ні „эндэк“,
Ні „сельсаюзьнік“, ні „хадэк“,
Але запісаны да чорнай лісты,
Бо я... — быўшы „грамадзісты“, —
Калі што.. садзісь за краты
І ня думай пра мандаты...



Янка Маланка




╳ Кажуць, што б. п. Ярэма, ў выпадку ўдачных для яго выбараў, загадае раздаць бяз выкупу ўсю зямлю, якая толькі ёсьць на ўсім сьвеце, але для сябе асабіста купіць за даляры валок з пяток.

╳ Кажуць, што віленскі „Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры“ раздае пасольскія мандаты толькі сваім сільнейшым фізычна сябром, дзеля чаго ў часе спатыканьня сёлетн. Новага Году ў кватэры Інстытуту адбылася гэнэральная бойка. Былі пабітыя (але не забітыя) і раненыя, а навет... заплаканыя.

╳ Кажуць, што эсэр Мамонька, абіджаны тым, што ніхто не адклікнуўся на яго „Покліч“, мае пакінуць няўдзячную Заходнюю Беларусь. Дзеля гэтай мэты навязаў кантакт з эсэрамі на Марсе і ў хуткім часе рыхтуецца туды выэміграваць, дзе праўдападобна будзе яму даручана пасада дырэктара дзяржаўных сьпіртных манаполяў.

╳ Кажуць, што б. пасол Шапель, вядомы сваімі гіганцкімі крокамі з партыі да партыі, пасьля свайго зьезду рашыў купіць сабе лапці, сярмягу і сялянскую шапку, а гэта дзеля таго, каб спрытней ашукваць сялян.

╳ Кажуць, што бацька „Беларускай“ Радыкальнай Партыі Умястоўскі, ня маючы казённай круцёлкі, як Паўлюкевіч, усё-ж такі круціць... пэнсіі сваім працаўнікам, асабліва агітатарам.

## Каля Беластоку.



— У нас агітавалі з N. P. R. (Незалежн. Работн. Партыі), дык мы іх высьвісталі.

— А ў нас былі „Пэпээсы“, дык мы іх за дзьверы выкінулі.

## „Поэту“ Якіму Сухарскаму.

...Мову родную хто
Пазабыў, асьмяяў,—
Загубіў за нішто, —
Каб ён сьвету ня знаў!..

*Г. Леўчык.*

Пакінь салодкія лятункі,
Ўжо „*недѣлимой*“ не вярнуць...
Жыцьцё зьвяло з ёй парахункі.
Пакінь салодкія лятункі,

Бо нагароды не дадуць!
Краса вясны — тваe пястункі
Ўжо адцьвіла, дык, браце, знаеш:
Пакінь салодкія лятункі!

Ты мовай нашай пагарджаеш,
Ты — беларус о, мой „поэце“,
Ціж мала йшче ў старонцы нашай
Жыцьцём ня зьнішчанага смецьця.

Акімку! ўсім, што ня любілі,
Што адракліся роднай мовы, —
У падзяку кол, братко, здаровы
Ўваткнуць з асіны на магіле...

Пішы, „поэт“, дасягнеш славы,
Ляці-ж ў чужым табе бязьмежжы.
Ужо карабель яе дзіравы
Даўно чакае на ўзьбярэжжы
Жыцьця, жаданага табой.
Пішы, Якімку, ўбогі мой!..

**М. Васілёк.**

*Ад рэдакцыі:* Усяму таму сьмяцьцю, якое яшчэ засталося на нашай Беларусі, ў тым ліку і невядомаму „расейскаму песьняру“ з Горадзеншчыны, Якіму Сухарскаму, гэты верш прысьвячаецца.

*„Маланка“.*

### ТУПЫ НОЖ.

Дачка прыехала да бацькоў на сьвяты. Быўшы ў месьце, яна навучылася некаторых культурных манераў, а дзеля таго любіла зварочваць увагу сваім бацьком, што культурна, а што някультурна.

— Татачка! гэта-ж страх... ня можна есьці нажом!..

— Ня бойся, дачушка, ён тупы!..

**„Зиз“.**

### ЦЯЖКІ ЧАС.

Матка да дачкі:

— За каго ты, Марылька, хацела-б выйсьці замуж: за блёндына, ці за брунэта?

— Э, дзе там разьбіраць! У сучасным цяжкім часе не адмовілася-б і ад лысага.

*Я. М.*

## Стары спосаб.

Раз у вечар да Ігната
Сабралося шмат жанчын, —
(Як гарбуз, набіта хата),
А з імі з паўкапы мужчын.
Бабы—з прасьніцай, вядома,
Ці з панчохамі ідуць;
Мужыком-жа нудна дома,
Дык... за бабамі бягуць.
Пры кудзелі ў баб работа:
Верацёны—аж бурчаць.
Пры тым паслухаць ўсім ахвота,
Дзе на сьвеце што чуваць.
Тут наш Янка бабам чмуціць,
Што ў газэтах стаіць так:
(Хоць ня мала й перакруціць,
Бо на гэта ён мастак).
Што сучасная навука
Перавернець усё дном, —
Усё на сьвеце (вось дык штука!)
Хутка пойдзе хадыром.
—„Мусіць, вы яшчэ ня чулі?“
Янка кажа: „вось манер!
Кураняткі ўжо бяз куры
Можна вывесьці цяпер.
А навука далей прэцца
І, ў газэтах ёсьць, чутно,
Новым спосабам ўдаецца
Адтрымаць ажно цялё.
А яшчэ цьвярдзіць навука,
І паверыць можна
А нядаўна ўжо машыну
Адкрыў нейкі дабрадзей,
Што пановаму без жанчыны
Будуць размнажаць людзей“...
Аж тут раптам маладзіцы:
— „Што ты, Янка?!—ўсе крычаць:
Мы-ж не каровы й ня курыцы, —
Не дамося ашукаць!...
Хай нас садзяць у вастрогі,
Хай нас рэжуць,—зьнясём болі!—
Але... ад спосабу старога
Мы не адступімся ніколі!!

**Улад.—Ініцкі.**

### СТАРАННЫ.

Бацька да сына:

— Даў каню аўса?

— Даў.

— А ці напаіў?

— Але.

— Дык запрагай яго, у млын паедзем.

— Але-ж я ня ведаю, дзе конь ёсьць.

### ДОБРЫ МУЖ.

*Жонка*: — Ах ты п‘яніца, гультай! Зноў прыходзіш дамоў раніцай. Ці-ж гэта добра? Скажы, што-бы ты рабіў, каб я гэтак позна прыходзіла?

*Муж*: Нічога, ні-ні-чога. Сказаў-бы: ідзі, маё золатца, спаць.

**Г. Г.**

# Тры Каралі у Заходняй Беларусі




(**Б. паслы — Ярэміч, Рагуля і сэн. Багдановіч**). Пяць гадоў быцьця нашага ў Сойме ў адзін момант прайшло, навет і не нацешыліся. Вось, каб яшчэ раз у Сойм, ці ў Сэнат прайсьці, тагды-б мы падарункаў беларускаму народу не пашкадавалі-б...

## ЦЫГАН ЗАВАРАЖЫЎ.

Прыйшоў цыган да селяніна і просіць:

— Дай, бацька, сала!

— Ідзі касіць, дык дастанеш сала і да сала.

— Добра.

Пайшоў цыган на сенажаць. Пабыў там да вечара, а за касу на'т ня браўся, толькі ўсяго і працы, што ўсё сала сьпітляваў.

Вярнуўся вечарам цыган да гаспадара і йзноў просіць:

— Дай, бацька, яшчэ сала, каб трава ня ўстала.

Гаспадар адмовіў.

— Ну, не даеш сала, каб-жа табе трава ўстала! — сказаў адходзячы цыган.

На другі дзень пайшоў гаспадар на сенажаць, аж там уся трава стаіць ня кошаная.

Уздыхнуў цяжка селянін, ды кажа:

— Пашкадаваў учора сала, — вось і трава ўстала!

Ш.

## ХТО З ЧЫМ..

Паслы ў Сойм павінны ісьці з сваімі профэсіянальнымі прыладамі. Гэтак: поп — з крыжам, ксёндз — з кантычкай, Ярэміч — з лятарняй (мусіць пад вокам), Рагуля — вядома, з рагамі, а „доктар“ (пэўне Паўлюкевіч) — з... клістырамі.

Бзд...

# Перадвыбарныя здарэньні.

Будуць выбары!

Усё арганізуецца.

Толькі вось нашаму брату — фэльетоністаму проста немагчыма якую-небудзь партыю скамбінаваць.

Дый дзе ўжо там партыю?!

Хоць-бы арганізацыю сваю прафэсіянальную якую склеіць...

Быў, праўда, „Веснаход“ мінулаю вясною закладзены, але недзе разам з тэю самаю вясною ў нябыцьцё, пасьля досіць доўгага, як той казаў — „анабіозу“ (паўсьмерці) адыйшоў.

А бяда „неарганізованаму“ чалавеку ў наш час.

Ніяк у людзі ня вылезеш.

Асабліва ў... паслы, у Сойм, значыцца, або ў сэнатары — ў Сэнат.

Ёсьць крыху падобнае нешта — гэта *санатар*.

Так! так! ня сэнатар, а санатар.

Ад гэтае самае санацыі, значыцца.

Гэтым вось вялікім чалавекам-санатарам зрабіцца шмат лягчэй:

Залажыў сякую-такую „хатку“, пусьціў ігру *сьветльно-калёровую*—

Тут табе зараз і грошы, і газэта свая з раешнікамі, з ілюстрацыямі, з пашквілямі на ўвесь беларускі рух.

І адразу, пасьля гэтага, розныя паны „naprawiacze“ ды „sanatory“ з моднае сягоньня „Партыі Працы“ падхопяць:

— Да нас, да нас, хлопча! Гайда разам на беларусаў! Ня даць ім ходу на выбарах.

А так, бяз усіх гэтых клюбна-хатачных камбінацыяў, сягоньня ў „беларускія дзеячы“ няма дарогі.

Дый жыцьця, проста, няма...

---

Гэтак разважаючы, я глянуў у вакно.

Няшчасьце!

Адліга на дварэ пачынаецца, а башмакі мае даўно трэбуюць сабе ня толькі што санацыі капітальнае, а проста ўжо поўнае замены на новыя.

— Што рабіць? — хапаюся за галаву.

— Трэба ляцець да знаёмага майстра-шаўца, пакуль на вуліцы ад „працекцыі“ ў падносках катару не злавіў. Можа паверыць, ды на вэксаль пашые?..

---

На Вялікай вуліцы, каля кіна „Пікадзілі“, бачу магутная фігура з чырвоным носам прэцца насустрэчу.

І наляцеўшы каршуном ня мяне, крычыць:

— *Измена! измена!..*

— Што бязьмен?.. Які бязьмен? — пытаюся, адвыкшы ад расейскае мовы. А дзядзька мне сыпле:

— Ды не бязьмен — таўкач ты, — а *измена, понимаешь?..*

— Ага! значыцца здрада... дзяўчына здрадзіла, гэтая самая вя-

## Ня ўсякі вытрывае.



*Аглядчык*: — Скажэце, а клапоў тут няма?

*Жыхар*: — Даруйце! Клоп—ці-ж ён у такіх варунках выжыве? Ён — стварэньне слабое, дзе яму!

### АДЗІН ДРУГОГА ЛЕПШЫ.

— У мяне быў адзін знаёмы, які і ў цемнаце бяз лямпы чытаць мог.

— Э, гэта нічога дзіўнага! Вось наш начальнік пошты дык закрыты ліст праз канвэрт пазнае, ці ёсьць даляры, ці не.

## Ня дай і ня лай!



— Дзядзечка! — дайце на мiласьць Боск...

— Пашоў к чорту!

— Вось, сьцерва, і даказаць не дае.



### ЗАСЛУЖАНЫ.

— Кажуць, што наш павятовы староста дастаў ужо трэйцюю мэдалю...

— За што?

— Трэйцюю дастаў за тое, што меў ужо дзьве; другую — за тое, што меў адну, а першую — за тое, што ня меў ніводнай.

## Госьць, а разумее.



— Другая сьвіньня прыдзе ў госьці і наровіць, каб дзе на абрус, або сярод хаты... А я сваё месца ведаю — заўсёды ў куток.

(*З радавага гумару*).

### ДОБРАЯ РАДА.

— Даражэнькі сынок! калі хочаш быць шчасьлівым, дык сьцеражыся карчмы, картаў і распусты.

— Так, татачка! Але-ж мяне ў школе вучылі, што трэба заўсёды з бацькоў прыклад браць.

---

сковая, румяная, блёндынка, што карты ў лёто прадаваць выпісаў, а пасьля сабе да хаты забраў?..

— *Грандіозная измена*... здрада! — крычыць мой „дзеяч". — 2.000 чалавек ува ўсіх пяцёх арганізацыях Паўлюкевічэ разам было... І толькі 400 цяпер засталося. Але й тыя могуць здрадзіць!

Я нічога ня мог зразумець.

Перада мною стаяў з усіх бакоў „*былшы чалавек*":

Быўшы беларускі міністар — раз.

Быўшы „душа" аднае провінцыяльнае гімназіі — два.

Быўшы *статскій советник* — тры.

Быўшы прыяцель Пурышкевіча, Маркава 2-га, графа Коновніцына, Дубровіна, Гамзей-Гамзеіча і г. д.

Чорт яго і пералічыць усё тое, чым гэты чалавек быў.

Я выцягнуў да яго руку, каб разьвітацца, шануючы беларускім звычаем яго паважны на нашыя часы дзядоўскі век.

— Куды? як-жа жывеш?—затрымлівае ён.

— Іду да шаўца,—адказаў я,— а жыву вось, як бачыш.

„Дзеяч" мой падняў акуляры на лоб і утаропіўся мне ў ногі:

— Што ты? цяпер у гэтых башмаках? З павуціны? — зьдзівіўся ён.

— Як бачыш! Але новыя закажу, скураныя, — адказаў я.

— А, цюцік! стрэліў недзе грошы... на выбары... агітаваць хочаш? Ня лезь! Заляпісуюць!.. А ў нас усё-ж такі здрада:

Уся Палачанская валасьць з партыі, з нацыянальнае рады, з „Прасьветы" зусюль, зусюль начыста ўцякла. Тысяча шэсьцьсот чалавек адразу дый ішчэ з войтам, з Пятровічам на чале, з гэтым, што на зьезьдзе самаўрадаўцаў у „Хатцы" старшынёю быў.

— Гэта мяне ня цікавіць, — спакойна адказваю.

— Ага! ня цікавіць? А нам хоць Лазара сьпявай!.. *Нельзя, ничего нельзя тут дѣлать, понимаешь?* — перайшоў быўшы чалавек на лягчэйшую для яго мову.

— *Вот в Россіи*, дык праўдзівае аздараўленьне будзе... калі толькі пачнецца. *А тут из этой санаціи никакого для меня толку нет*, — нэрвова скончыў ён, перад тым азірнуўшыся на ўсе бакі.

Разьвітаўшыся, я хутка дабег да шаўца, і пакуль той мерыў маю левую нагу ў мокрай шкарпэтцы, я сабе ціхенька падумваў, што ня мне аднаму цяжка жыць на белым сьвеце.

Цяжка даводзіцца нават і „дзеячом" з усімі быўшымі тытуламі:

— Здрада! — крычаць —

— Нічога тут ня зробіш!...

Ну, і пэўна што так!

Прадзёр ужо вочы селянін і ведае, хто чаго варт.

**Picolo.**

# Гэй, смалі, страляй „Маланка!..




**Газэтчыкі крычаць:** — Купляйце „Маланку“, чытайце „Маланку“, „Маланка“ — сьмешыць, „Маланка“ — цешыць; не шкадуйце-ж трыццаць грошай для „Маланачкі“ харошай!

## МУЖЫЧОК — ДУРАЧОК, ЗНАИ НЕ ЗЯВАЙ, МЯНЕ Ў СОИМ ВЫБІРАЙ!

Наш Ярэміч дэпутат
„Социяльны-дэмакрат“
Заклікае ўсіх сялян
Падрываць рабочы стан.

— Бо работнік, — кажа ён, —
З намі спрэчны ад давён,
Хоча вызваліцца сам,
А ня даць нічога нам.

Дый работнікаў няшмат
З беларускіх вышла хат,
Ці-ж яны змагуць, паслоў,
Нас у Сойм пасльць ізноў,
Даць нам цёпленькі мандат!

Без мандату-ж, як бяз рук,
Проста выляціш на брук,
А тады хоць памірай,
Дык сялянства: — „выбірай“!

Ты-ж вось гэтка „Грамада“,
І з табою не бяда
Ў моцны зьвязвацца „Саюз“,
Каб Ярэміч мог быць — туз,
Раздабрэць, як той гарбуз.

**Шаснаццаты.**

# Сумленьне.

Пасьвядчаецца ўсім кандыдатам у паслы да польскага Сойму, пачынаючы ад эндэкаў і канчаючы пэпээсамі, вызваленцамі і... сельсаюзьвікамі.

*„Маланка“.*

— Хто вы такі?
— Кандыдат у паслы да Сойму.
— Але-ж не, я пытаюся, чым вы займаецеся?
— Я-ж вам кажу, што кандыдат у паслы!
— І вам ня сорамна?
— Чаму?
— Ды так, наагул, ня сорамна?
— Але-ж чаго мне мае быць сорамна?
— Ды вы ня выкручвайцеся — паглядзеце мне проста ў вочы і адказвайце: вам ня сорамна?
— Я, нічога... не разумею..
— Ды што вы мне кажаце! Пры чым тут „разумею, ці не разумею“, вы мне толькі скажэце: вам ня сорамна?

Маўчаньне.
— Ну?
— Што?
— Чаму-ж вы не адказваеце?
— Але што я маю вам казаць?
— Вам ня сорамна? Вы толькі прызнайцеся адкрыта: вам сорамна, ці ня сорамна?
— Маўчаньне.
— Але, сорамна!
— Даўно-б гэта сказалі.

Абое цяжка ўздыхаюць і расходзяцца.

**Ave.**

# Пэўны.

Паліцыянт спаткаў незнаёмага і думаў, што гэта камуністы:
— Стой!.. *Рэнцэ до гуры!* — я павінен вас зрэвідаваць...
— Дарэмная праца! перад выхадам з хаты мяне дасканальна жонка зрэвідавала.

## СЯРОД б. ПАСЛОЎ „ВЫЗВАЛЕНЦАЎ“.

*(З падслуханых гутарак).*

— А ведаеш што, пакуль ня быў паслом, дык меў толькі сумленьне, а больш нічога, а цяпер маю фальварак, даляры ў банку, краму ў мястэчку, але... сумленьня ня маю.
— Пляваць на сумленьне! Я яго ад маленства ня маю, а ўжо два разы паслом быў і цяпер трэцьці раз у Сойм папасьці спадзяюся...

## ЛІТЭРАЛЬНА ЗРАЗУМЕЎ.

Муж скардзіцца жонцы:
— Ліха ведае, што гэта за час такі, ніяк на грошы разжыцца ня можна...
— А што трэба зрабіць, каб мець грошы? — пытае шасьцёхгадовы сынок.
— Трэба быць разумным, працавітым і шмат чаго ведаць, — навучае бацька.
— А ці-ж тата дурны, гультай і нічога ня ведае?!

**М.**

## ПАДСЛУХАНАЯ ГУТАРКА.

— Чым вы цяпер займаецеся?
— Правакатурай.
— На пэнсіі?
— Не, так, ад штукі.

## ПАКАЗАЎ НА ДЗЬВЕРЫ.

— Запрапанаваў я нашаму камэнданту хабара, дык ён мне на дзьверы паказаў...
— Няўжо выгнаў?
— Не... Проста даў зразумець, што там за дзьвярыма могуць нас падслухаць.

**Р. Г.**

## У ХМАРНУЮ ПАГОДУ.

— Што вы можаце сказаць пра сонечную сыстэму?
— Сыстэма — добрая, але выканаўцы кепскія.



I. ЦІКАВЫ.

## Што казаў дзед Піліп пра радыё?

Мы грамадой абступілі дзеда Піліпа і з захопленьнем алавядалі яму пра над'звычайныя поступы, якія робіць радыё.

— Зразумейце сабе, дзядуля, можна слухаць сьпевы з Бэрліну, Лёндану, Жэнэвы, навет з Нэў-Ёрку!

— Эт, глупства! — махнуў рукой стары Пілiп.

— Можна слухаць музыку, лекцыі... Як наставіш на галасьнік, дык куды там грамафон!.. Далёка яму да радыё!.. Лепш чутно... выразьней!..

— Гэта не для нас, — зяўнуў стары дзед. — Для нас трэба чагось іншага!..

— Ну, ведама, дзядуля ня скача, сьпевы яго ня цікавяць...

— Ды ня тое зусім вы кажаце, дзеці. Вам маладым усё сьпевы ды скокі ў галаве, а пра гаспадарку ня думаеце... Радыё можа прыдацца і ў гаспадарцы... Вясной, напр., вароны насеньне з зямлі выдзёўбваюць... Прыйдзе лета, вераб'і жыць не даюць, вішні пааб'ядаюць, у збожжа нішпараць, абіваюць... А вось каб схаваць у жыце некалькі гэтых галасьнікоў, ды каб яны ў адзін голас закрычэлі: а кыш!.. а кыш!.. А пасьля зноў і зноў... Магу залажыцца, што ніводзін верабей не заглянуў-бы ў жыта...

Або папрывязваць вось гэтыя вашыя галасьнікі на вішнях, а пасьля стрэліць на надаўчай станцыі з гарматы... Па ўсім садку: трах та-р-р-р-а-рах, а пасьля зноў і зноў... Хіба-ж пасьля гэтага хоць адзін верабей адважыцца навет паглядзець на вішню? Ці хіба хоць адзін вісус адважыцца тагды зьбліжыцца да яблыні? Але, але, радыё гэта — добрая рэч... — казаў дзед Піліп, а мы слухалі і маўчалі...

Ці ня мае ён слушнасьці?

*(З украінскага)*

Я. М.



## НАШЫ РЭЦЭПТЫ.

### ЯК ЗРАБІЦЬ МУЖЧЫНУ.

Бярэцца пара ботаў, адны шкарпэткі, лепш у паскі, кашулю таксама ў паскі, сіні гарнітур, гальштук, калёру марской хвалі.. і ўсё.

— А самае галоўнае?

— Самае галоўнае вусы, але... іх можа і ня быць.

### ЯК ЗРАБІЦЬ ЖАНЧЫНУ.

Жанчына робіцца зусім проста — : бярэцца „бюстгальт", паўкіля ваты, шырокая сукенка, парык, капялюш а'la вазон, пэрлы (могуць быць і фальшывыя) у вушы, элегантная торбачка.

— А ў сярэдзіне што?

— Мякіна і ўсякае сьмяцьцё.

### ЯК РОБІЦЦА КАХАНЬНЕ.

Каханьне ня робіцца; яно валіцца на галаву, як дождж і нарабіўшы бруду выпарваецца.

### ЯК РОБІЦЦА КАР'ЕРА.

Трэба рабіць масаж сьпіны аж да поўнага яе схіленьня ўніз, да гэтага дадаць разьвіцьцё мускулаў — каб імі можна было сільна націскаць патрэбныя для гэнае аказіі пружыны; адсутнасьць асабістага гонару і як найбольш аплёмбу.

### ЯК РОБІЦЦА ШЧАСЬЦЕ.

Яно ніяк ня робіцца, бо... яго няма.

### ЯК РОБІЦЦА ПАСОЛ.

Бярэцца моцнае горла, да яго прывязваецца вёрткі, як верацяно, язык, дадаецца кругленькі жывоцік. На час выбараў накладаюцца лапці і кажух, а пасьля выбараў лякеркі і фрак.

— А галоўнае што?

— Галоўнае — вялікая, як лапата лапа, каб мог добра заграбаць дыеты.

### ЯК РОБІЦЦА ПАДПІСЧЫК.

Бярэцца „przekaz pocztowy", пішацца на аднэй старонцы яго: Рэдакцыя „Маланка", Вільня, Гэтманская вул., № 4, а з боку свой адрэс. Зьверху пішацца, колькі высылаецца грошай (8 зл. на год, 4 зл. — на паўгода і 2 зл.—на тры месяцы). На другой старонцы з боку пішацца на што высылаюцца грошы і на які час.

— А галоўнае што?

— Галоўнае, — каб падпісчык не чакаў напамінаньня аб падпісцы, а сам прысылаў яе акуратна.

### ДЗЯЦІНАЯ РАДАСЬЦЬ.

— Татка, ці-ж гэта праўда, што ты запісаўся ў пажарную каманду?

— Праўда, маё дзіцятка.

— Ой, як я рад! Дык гэта цябе будуць хаваць з музыкай.

### НЕ МАГЛА ВЫТРЫВАЦЬ.

На хаўтурох адзін кажа:

— Гэтак раптоўна памёр і пакінуў маладую жонку, усяго дваццацёх пяцёх гадоў.

— Выбачайце, мне ўсяго дваццаць два гады, — адказала з запалам плачучая жонка.

### ЧУЛАЯ ВАГА.

— Скажы мне, Янка, няўжо я важу пяць пудоў?

— Зусім магчыма, характар у цябе вельмі цяжкі.

# Перад працэсам „Грамады“.

У канцы лютага мае адбыцца судовы працэс „Грамады“, на які будзе паклікана 56 абвінавачаных каля паўтысячы сьведкаў.

(*З газэт*)



**Віленская Фэміда*)**: Калі хто і заслужыў на мэдалю, дык толькі я! Столькі абвінавачаных і столькі сьведкаў у адным працэсе — гэта праца мая, а ня жартачкі! А той Обст, каб яму язык спух, усьцяж кажа, што беларусаў няма...

## НАША ПОШТА.

**Ад рэдакцыі**: Высокапаважаныя падпісчыкі, чытачы і сымпатыкі „Маланкі“ чынна адклікнуліся на заклік наш дапамагчы матар'яльна нашай часопісі. У працягу двох тыдняў мы прыдбалі не малы лік новых платных падпісчыкаў. Рэдакцыя наша пацяшае сябе надзеяй, што і надалей лік падпісчыкаў „Маланкі“ з кожным днём будзе ўзрастаць і хутка дайдзе да такой лічбы, што рэдакцыя выпутаецца з грашавых труднасьцяў і зможа акуратна і часта выпускаць сваю часопісь, па магчымасьці тры, або чатыры разы ў месяц.

Дык хай кожны сьвядомы беларус, ня гледзячы, да якой палітычнай партыі належыць, хай палічыць сваім абавязкам падпісацца на адзіную ў Заходняй Беларусі гумарыстычную часопісь!

У інтарэсе самых падпісчыкаў просім пісаць свой адрэс выразна, дакладна і падаваць назоў бліжэйшай пошты.

**Бзд—ку**: Выдумайце сабе іншую, больш прызваітую мянюшку (псэўдонім). Жарты прысылайце.

**Дубадзеду**: Верш свой пачынаеце так:

„Маланку“ я люблю бяз меры,
Я ёй гатоў усё аддаць...

Ня трэба нам Вашага „ўсяго“. Прышлеце падпіску і... нам хопіць!

**Лінеў—му**: На Вас мы крыўдзімся. У вершы сваім Вы пішаце:

...Сваёй мілай, каханай дзяўчыне
Падарункаў я многа куплю...

Грошы на падарункі маеце, а нам пісьмы бяз марак прысылаеце і нават другі раз!

*) *Фэміда* — багіня правасуднасьці ў старажылых грэкаў.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4**
«МАЛАНКА»

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:

на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „

За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.